БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

30 красавіка 1994 г.
Субота
№ 46 (13763)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


## У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*




## Велікоднае пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

*Христос воскресе, смерть поправый,*
*и мертвыя воздвигнувый, людие, веселитеся.*
**(Велікодны канон, спеў 8).**

Узлюблёныя ў господзе прасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, богалюбныя інакі і інакіні і ўсе верныя чады беларускай праваслаўнай царквы!

З вялікай радасцю віншую вас са святам святаў — днём святога Вялікадня!

У гэтую дзіўную ноч мы зноў успамінаем аб падзеі, якая па свайму значэнню не параўнальная ні з чым. Роўных ёй няма ў гісторыі чалавечага роду, бо яна з'яўляецца цэнтрам гісторыі, яе сувязным звяном, без якога ўсё, што адбываецца, страчвае сэнс. Гэтая падзея — уваскрэсенне Госпада нашага і збавіцеля Ісуса Хрыста. Святкуючы яго сёння, мы разам з царквою пяем: "Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ и сущим во гробех живот даровав!"

Якая радасць павінна быць у нашых сэрцах пры ўспаміне аб уваскрэсенні Хрыстовым! Гэта — наша агульнае свята, наша агульная ўрачыстасць, бо ўсіх нас раней ці пазней чакае смерць... І вось, аказваецца, што яе няма, што яна пераможна. І мы можам разам з прарокам Асіяй усклікнуць:"Смерть! Где твое жало? Где твоя победа?" (13,14). Ад гэтых словаў сэрцы ўсіх напаўняюцца незямной радасцю, бо ўваскрэсеннем Хрыстовым ісцінна пераадолены цемра, маркота і безнадзейнасць смерці.

Сапраўды, свяшчэнная і вартая радасці гэтая ратавальная і прамяністая ноч, у якую беспачатковае святло ў плоці праззяла ўсім з труны. Ці можа хто змерыць глыбіню цяперашняй радасці? Колькі прайшло стагоддзяў пасля ўваскрэсення Хрыстовага, колькі змянілася пакаленняў, народаў і звычаяў, але гэтая свяшчэнная радасць заўжды аднолькава чыстая і невымоўная, яна бязмерна пераўзыходзіць усе зямныя радасці.

Велікодны канон абвяшчае гэтую радасць так: "Небеса убо достойно да веселятся, земля же да радуется, да празднует же мир, видимый же весь и невидимый: Христос бо восста веселие вечное" (спеў 7).

Гэтая радасць зямлі і неба вынікае ад усведамлення таго, што Хрыстос сышоў у апраметную пекла, ззяннем свайго бажаства скрышыў вечныя заклепы, што затрымлівалі там вязняў, і даў пераможную сваю зброю супраць усіх сіл пекла — жыватворны крыж!

З труны ўваскрэслага Госпада занялася зара ўсеагульнага ўваскрэсення: "...Ибо как во Адаме все умирают, так во Христе все оживут" (1 кар. 15,54). Не страшная цяпер і магіла, бо "поглощена смерть победой" (1 кар. 15,54), а яна ўчынілася ціхім пераходам да лепшага жыцця. Не абцяжарвае ўжо з набліжэннем да труны смутак адчаю, бо яснае сонца праўды сваімі найсвятлейшымі промнямі азарыла змрочны канец нашага зямнога шляху.

Радуецца сёння грэшнік, бо з труны жыццядайніка праззяў дар Божы уседаравання, усынаўлення і далучэння да жыцця вечнага!

Радуецца сёння пакутнік, бо з труны ўваскрэсла суцяшэнне ў пакутах, прыстанак і сіла ў журботах.

Радуецца сёння бядняк, бо з труны адкрыты шлях да вечных даброт, якіх ні сэрца не можа адчуць, ні розум не можа ахапіць.

Радуецца сёння з радасцю нашай і неразумнае стварэнне, бо і яно атрымала залог новага, лепшага жыцця.

Узлюбленыя! Сёння ўсе аднолькава зазнаюць духоўную радасць: і тыя, хто ведае пісанні, і хто не ведае, вучоныя багасловы і невучоныя прасцякі, і нават маладасведчаныя отракі — апошнія, пры тым, не менш, калі не больш за першых. Хто ж і што ўчыняе гэты дзівосны ўсеагульны радасны настрой? — невідочная радасць, таямнічая прысутнасць на зямлі самога ўваскрэслага Госпада, які пажадаў, каб ніхто з нас не быў у журбоце і смутку.

І калі ён, па сваім боскім і найсалодшым голасе, з намі абяцаўся быць да сканчэння веку, тым болей знаходзіцца з намі ў цяперашнія дні яго праслаўлення і перамогі над пеклам і смерцю!

Але як некалі ён пры дзвярах зачыненых з'явіўся смуткуючым апосталам і даў ім мір, і як смуткуючым міраносіцам, прамовіў: "Радуйцеся!" І гэтымі жыватворнымі словамі напоўніў невыславеннаю радасцю сэрцы іх, так ён, найсалодшы выратавальнік наш, у гэтыя свяшчэнныя і ратавальныя дні нябачна знаходзіцца сярод нас і таямніча спавядае нам мір і радасць.

Праваслаўныя! Гэтая свяшчэнная ноч ёсць прадвесніца прамяністага дня ўсеагульнага ўваскрэсення, пачатак будучай бясконцай нябеснае радасці, бо што ўяўляюць сабой нашы праваслаўныя храмы са сваімі благалепнымі аздобамі і свяшчэннадзеяннямі, як не самое неба і таямнічую прысутнасць тут нябесных сіл?

Што прадвяшчае сабой нясцпанне ў гэтую ратавальную ноч, гэтыя нязмоўчныя славаслоўі і хваласпевы ўваскрэсламу выратавальніку, гэтыя частыя яўленні сярод нас, свяшчэннаслужыцеляў у бліскучых адзеннях, гэтае наша прадстаянне прастолаў алтара пры адчыненай царскай браме,— як не тую светлую і нескančальную раніцу, калі веруючы народ разам з анёламі і ўсім нябесным стварэннем будзе прадстаяць прастолу Божае славы, пакланяцца цару вякоў, які там уваcсядае, і нязмоўчна ўвассылаць яму славу і гонар (Апак.19, 1-7).

А што прадвяшчае сабой гэты заклік святой царквы да адной толькі духоўнае радасці і весялосці, без усялякага напаміну пра нашы грахі і недахопы, і гэтае запрашэнне ўсіх нас, без выключэння, да ўзаемнага даравання і сяброўскага прывітання,— як не той расійскі стан, калі "не будет ни плача, ни вопля, ни болезни" (Апак.21, 4), калі не будзе ні злахітрасці, ні ілжы, ні падману, ні нянавісці, ні варожасці, ні злосці, але будзе сярод верных адна найчысцейшая любоў і будуць "все одно во Христе Иисусе" (Гал.3, 28).

Таму, узлюбленыя, у гэты слаўны дзень і гэтую прамяністую ноч уваскрэсення Хрыстовага святая царква запрашае нас да аднаго духоўнага захаплення і незвычайнай радасці, каб яшчэ тут, на зямлі, далучыцца боскай весялосці царства Хрыстовага (Велікодны канон, спеў 8).

Свяціся, свяціся, новы Ерусаліме — царква божая! Радуйся сёння і весяліся, душа хрысціянская! Цешся святлом боскім, што агарнула цябе ў гэтую свяшчэнную ноч! Не адводзь поглядаў тваіх з віноўніка сённяшняй радасці — уваскрэслага выратавальніка твайго, нясі яму пераможныя спевы і пацвердзі вернасць яму справамі міласэрнасці і любові!

Дарагая паства праваслаўная! Не азмрочым жа мы светлых дзён учынняммі цемры! Будзем імкнуцца да духоўных вышынь, на якія ўзвяла нас святая царква, і чакаць, калі нябесныя анёлы і мы, зямныя вандроўнікі, разам збярэмся ў доме Айца нябеснага вечна святкаваць Вялікдзень божы ратавальны! Амінь!

Хрыстос уваскрэсе!
Ісцінна ўваскрэсе!

**Філарэт,Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**



## *Паважаныя суайчыннікі!*

1 мая мы адзначаем свята працы!

Нашаму народу блізкія і зразумелыя гэтыя словы: мір, праца, май.

Для шчаслівай будучыні чалавецтва, дабрабыту і моцы нашай дзяржавы неабходныя перш за ўсё спакой на зямлі і добрасумленная праца кожнага з нас.

У гэты святочны дзень выказваю сардэчную падзяку рабочым, земляробам, інтэлігенцыі, усім, хто сваімі паўсядзённымі справамі ўносіць важкі ўклад ва ўмацаванне Рэспублікі Беларусь.

Шчыра віншую ўсіх вас, паважаныя суайчыннікі, са святам, жадаю добрага здароўя, шчасця і поспехаў на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

## Кур'ер "ЧЗ"

### Хто лепшы "спрынтэр" ?

*Прэзідэнцкі спрынт набірае скорасныя абароты, прадстаўнікі дзевятнаццаці ініцыятыўных груп працягваюць збор подпісаў у падтрымку абвешчаных кандыдатаў. Першы тыдзень, паводле ацэнкі экспертаў, не прынёс ніякіх сенсацыйных навін.*

Як стала вядома, толькі за тры дні было сабрана 90.000 подпісаў грамадзян, якія вырашылі падтрымаць прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Практычна на ўсёй тэрыторыі рэспублікі кампанія па збору подпісаў "за Кебіча" праходзіць вельмі арганізавана. Хаця, трэба зазначыць, розныя ініцыятыўныя групы літаральна з кожным днём актывізуюць сваю дзейнасць і, бадай, упэўнены ў канчатковым поспеху. Другі папулярны палітык экс-спікер парламента Станіслаў Шушкевіч пакуль (па колькасці сабраных подпісаў) адстае ад яўнага фаварыта.

### Лукашэнка абвяргае

*Набыўшы шырокую вядомасць і папулярнасць у народзе "антыкарупцыянер" народны дэпутат Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла, сутыкнуўся з перашкодай на сваім шляху да палітычнага Алімпа.*

У друку з'явіліся паведамленні, якія на думку Лукашэнкі, скажаюць ягоную пазіцыю наконт развіцця беларуска-расійскіх сувязей, у прыватнасці, пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм дзвюх дзяржаў.

З гэтай нагоды Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, у якой назваў падобныя меркаванні "хлуснёй і інсінуацыяй". Ён падкрэсліў, што яшчэ ў верасні мінулага года выказваўся за інтэграцыю Беларусі і Расіі, але за такую эканамічную інтэграцыю, якая стала б рэальнай, а не папяровай.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Сімпозіум у імя здароўя

*Заўтра ў Мінску завершыцца IV нямецка-швейцарска-аўстрыйска-беларускі сімпозіум па праблемах дзіцячай анка-гематалогіі.*

На працягу некалькіх дзён вядучыя спецыялісты вышэй упамянутых еўрапейскіх краін абменьваліся думкамі і меркаваннямі па актуальных праблемах дзіцячай гематалогіі і анкалогіі, выніках лячэння лейкеміі. Акрамя таго, упершыню ў СНД у рамках сімпозіума прайшла першая канферэнцыя медыцынскіх сясцёр па пытаннях дзіцячай анкагематалогіі. На сустрэчы закладзены пачатак будаўніцтва новага дзіцячага анкагематалагічнага цэнтра.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### "МММ" у беларускім варыянце?

*У нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча журналістаў з вядомым беларускім прадпрымальнікам Андрэем Клімавым.*

"Нашы суайчыннікі,— сказаў ён, — атрымалі магчымасць мець сродкі на такое жыццё, якім жывуць у цывілізаваных краінах Еўропы. Для гэтага ёсць розныя варыянты дзейнасці. Мы прыйшлі да вываду, што лепшы спосаб атрымаць максімальны даход ад сваёй дзейнасці — гэта аб'яднанне сродкаў для іх выкарыстання ў рэалізацыі перспектыўных праграм, у прыватнасці — будаўніцтва жылля. Менавіта з гэтай мэтай і ствараецца наша акцыянернае таварыства".

Першапачатковы статутны фонд акцыянернага таварыства "Андрэй Клімаў" вызначаны ў 10 мільярдаў рублёў. На дадзены момант прададзена акцый на 9 мільярдаў. Сярод акцыянераў, падкрэсліў Андрэй Клімаў, акрамя юрыдычных асоб, прадстаўнікі сярэдніх слаёў грамадства, пакет акцый якіх складае ў сярэднім 500 тысяч рублёў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Прысвечана году сям'і

*1994 год аб'яўлены Генеральнай Асамблеяй ААН годам сям'і. У наш час бацькі сутыкаюцца з вялікімі цяжкасцямі: у што апрануць, абуць, чым накарміць дзяцей, як іх вывучыць і вылечыць. Пра ўсё гэта гаварылася на вечарыне бацькоў, якая адбылася ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы Маладзечна.*

Тут арганізавана выстава "Святло сямейнага ачага", на якой прадстаўлена літаратура на тэмы сямейнага выхавання, побыту. Дзяцей на вечарыне чакала пацяшальная праграма.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Новая ініцыятыва

*Паэтычная акцыя "Новая ініцыятыва", якая днямі адбылася ў Віцебску, сапраўды насіла характар наватарскі, бо стала, што называецца, "першай ластаўкай" у развіцці нетрадыцыйных формаў паэтычнага мастацтва.*

Таварыства вольных літаратараў, якое выступіла ў якасці арганізатара акцыі, апошнім часам вельмі пра гэта дбае. Тым больш гэта сімвалічна, бо набліжаецца гадавіна з дня заснавання ТВЛ. У бліжэйшы час адбудуцца новыя паэтычныя выступы — ужо ў Полацку, Наваполацку. А, вяртаючыся да "Новай ініцыятывы", зазначу, што ўсё, што задумвалася, адбылося ў доме-майстэрні беларускага мастака Алеся Пушкіна. Ініцыятыўную групу ў той вечар складалі Алесь Аркуш, Славамір Адамовіч, Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч і Сяргей Патаранскі, якіх віталі вельмі цёпла віцябчане, а іх у той вечар сабралася нямала.

Наступная імпрэза ТВЛ адбудзецца 8 мая і прадугледжвае рок-канцэрт, паэтычную вечарыну, выставы твораў выяўленчага мастацтва.

**Сяржук ЖЫГІМОНТАЎ.**

### Усплёск злачыннасці

*У пачатку бягучага года ў Беларусі зафіксаваны новы рэзкі ўсплёск злачыннасці.*

У першым квартале было зарэгістравана 27,5 тысячы злачынстваў, што на 14,8 працэнта больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Асабліва рэзка (на 15,6 працэнта) павысілася колькасць разбойных нападаў, а таксама злачынстваў у сферы эканомікі. Разам з тым крыху зменшылася колькасць некаторых відаў цяжкіх злачынстваў: забойстваў, згвалтаванняў і нанясенняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў. На 2,2 працэнта павысілася выкрыццё злачынстваў.

### "ДДТ" у Мінску

*Легендарная рок-група "ДДТ" рыхтуецца выступіць у Мінску з адзіным канцэртам. Ён адбудзецца 24 мая на стадыёне "Дынама".*

Як паведамілі арганізатары гэтага шоу, музыканты з Санкт-Пецярбурга прыедуць у Беларусь па запрашэнню ўрада рэспублікі. На гэты раз "ДДТ" выступіць са сваёй новай праграмай пад назвай "Гэта ўсё...". Мінск будзе месцам яе трэцяга паказу пасля прэм'еры ў дзвюх расійскіх сталіцах. Потым той жа канцэрт убачаць кіяўляне.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 29 красавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 15200 | 15750 | 9000 | 9370 |
| "Пошук" | 15150 | 15700 | 8700 | 9200 |
| "Прыор" | 15500 | 15700 | 9200 | 9300 |

## ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

# Кампраміс не атрымаўся

☐ **Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"**

*Нечарговая сесія Вярхоўнага Савета завяршылася ў рэкордна сціслы тэрмін з прыняццем (час пакажа наколькі важных) рашэнняў. Упершыню ў рэспубліцы абраны члены Канстытуцыйнага суда, якія прысягнулі на вернасць Асноўнаму Закону, а таксама былі ўнесены змяненні ў шэраг заканадаўчых актаў, што маюць на ўвазе хутчэйшы рух да рублёвай зоны.*

Галасаванне па апошняму пытанню далося дэпутатам з цяжкасцю. Усяго некалькі галасоў вызначыла яго вынікі на карысць уз'яднання з Расіяй. Спрабуючы прымірыць палярныя думкі і засцерагчы рэспубліку ад магчымай небяспекі ў тым выпадку, калі дамоўленасці не запрацуюць, старшыня камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва Аляксандр Сасноў унёс на разгляд сесіі альтэрнатыўны варыянт пастановы. У ім прапаноўвалася не адмяняць законы, а толькі часова прыпыніць іх дзеянне. Аднак, большасць на такі кампраміс не пайшла. Зрэшты, паводле слоў самога Аляксандра Віктаравіча, ён не вельмі і разлічваў на падтрымку. Навошта ж тады ўносіўся гэты праект? Па тлумачэнні мы звярнуліся да самога дэпутата.

Аляксандр Сасноў:

— Мне неабходна было атрымаць слова, каб агучыць свае сумненні, паказаць, што многія разлікі экспертаў падманлівыя. Гэтай мэты я дабіўся. У прыватнасці, я сказаў аб той небяспецы, якая нас чакае ў сувязі з аб'яднаннем грашовых сістэм.

Напрыклад, незразумела, які курс абмену будзе па заработнай плаце? Калі яе мяняць адзін да аднаго, то сярэдняя зарплата ў нашай рэспубліцы складзе 250 тысяч расійскіх рублёў. У саміх жа расіян — 150—160 тысяч. Зразумела, на гэта Расія ніколі не пойдзе. Калі ж абмен адбудзецца па бягучаму рыначнаму курсу, то сярэдняя зарплата нашых людзей будзе 25—35 тысяч расійскіх рублёў.А пенсіянеры ўвогуле атрымаюць 15—20 тысяч. Гэта крах для ўсіх, прамы шлях да збяднення народа. Можна дапусціць, што будзе прапанаваны якісьці, не вельмі прыгнятальны, ашчадны курс для пераліку зарплаты нашых прадпрыемстваў. Але ў такім выпадку рэзка павысіцца сабекошт іх прадукцыі за кошт уключэння гэтай зарплаты ў затраты. Сёння нашы прадпрыемствы і так не могуць прадаць сваю прадукцыю ў Расію, а калі кошт падскочыць яшчэ, — тым больш не змогуць.

І яшчэ. А што будзе, калі Расія не выканае свае дагаворныя абавязацельствы, як ужо часта гэта рабілася? Адмяніўшы свае заканадаўчыя акты зараз, мы потым ужо нічога не зможам зрабіць. Таму я і прапанаваў толькі спыніць іх дзеянне, тым больш, што такім крокам мы нічым не перашкаджалі б рабоце Савета Міністраў у гэтым напрамку.

А калі сумленна, то я лічу, што большасць дэпутатаў, прагаласаваўшых за адмену законаў, не ідуць у рублёвую зону. Яны хочуць стварыць пэўны імідж кандыдату ў прэзідэнты пад час выбарчай кампаніі. Сам я перакананы, што дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм дзейнічаць не будзе, і на яго забудуцца пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Такая думка аднаго з дэпутатаў. Час пакажа, ці меў ён рацыю. Відавочна, як сёння і ў грамадстве, так і ў вышэйшым заканадаўчым органе рэспублікі не можа быць аднолькавых меркаванняў. Сумненні яшчэ доўгі час будуць праследаваць нас на шляху да эканамічных пераўтварэнняў і ў час палітычных рознагалоссяў.

### *Дарагія ветэраны працы! Паважаны беларускі народ! Суайчыннікі!*

Стала добрай традыцыяй ва ўсіх краінах свету і ў нас на Беларусі першы дзень веснавога месяца – мая – адзначаць як свята працы, свята працоўнага чалавека.

Веліч чалавека неад'емная ад самой яго працоўнай прыроды, паколькі праца з'яўляецца крыніцай і захавальніцай жыцця на Зямлі. Усё накопленае чалавецтвам, працавітымі людзьмі нашай рэспублікі, створана розумам і працай многіх пакаленняў.

Без стваральнай працоўнай дзейнасці людзей няма велічы дзяржаў і дабрабыту народаў. Гэта добра разумелі нашы ветэраны, калі ўзнімалі з пасляваенных руін гарады і вёскі рэспублікі, адраджаючы жыццё ў жылых дамах і вытворчых карпусах. Гэта вашай працай і творчасцю, дарагія ветэраны, створана ўсё тое, што складае набытак краіны.

Ваша нялёгкае жыццё ва ўмовах эканамічнага крызісу – дрэнная падзяка за сумленную чалавечую працу, якая аддадзена свайму народу. Урад разумее ўсю адказнасць перад вамі і будзе рабіць усё магчымае, каб змякчыць націск крызісу на ваш матэрыяльны і маральны стан.

Прыміце мае віншаванні са святам 1-га Мая і шчырыя пажаданні моцнага здароўя і ўпэўненасці ў надзеях, што тыя, хто рыхтуе сябе да працоўнага шляху на школьнай лаўцы і ў студэнцкай аўдыторыі, цэняць тыя даброты, якія вамі створаны для іх, прадоўжаць лепшыя традыцыі, набытыя старэйшымі пакаленнямі нашага народа.

Умовы для працы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, навуковым асяроддзі цяпер не зусім спрыяльныя. На матэрыяльным і духоўным стане людзей, іх сацыяльным становішчы адбіваецца крызісная эканамічная сітуацыя, якая паразіла ў першую чаргу вытворчасць – аснову атрымання жыццёвых даброт. Але крызіс не вечны. Выхад з яго залежыць ад нашых сумесных намаганняў. Гэта разумеем не толькі мы, але і нашы суседзі.

Невыпадкова доўгія месяцы ўрад па даручэнню Вярхоўнага Савета рэспублікі сумесна з урадам Расійскай Федэрацыі працавалі над заключэннем дагавора па эканамічнаму аб'яднанню нашых дзяржаў. Галоўнае ў дагаворы – стварэнне чалавеку ўмоў і гарантый працы, яе дастойнага ўзнагароджання. Упэўнены, што працоўны народ рэспублікі разумее і падтрымлівае рух да адзінства беларускага і расійскага народаў, якое ажыццяўляецца ў іх узаемных інтарэсах.

У гэтым годзе свята Дзень працы супала са святам Вялікадня. Пад гэтым добрым знакам я віншую ўсіх веруючых праваслаўнай царквы з Днём святога ўваскрэсення, што ўвасабляе веру ў жыццё, усяляе ў сэрцы людзей надзею на лепшую будучыню цяперашняга пакалення і іншых нашчадкаў.

Са святам працы вас, дарагія суайчыннікі, здароўя, шчасця і надзей на лепшую будучыню, жыццё, дастойнае працоўнага чалавека.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Кебіч.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

### Дванаццаць, але не апосталаў

*Паліцыя Калумбіі арыштавала дванаццаць чалавек, якія займаліся вырабам і збытам гераіну.*

Аперацыя была праведзена непадалёку ад горада Рыафрыа ў правінцыі Таліма. Знішчана плантацыя маку, захоплены лабараторыя па вырабу наркотыкаў, а таксама вялікая колькасць зброі.

### Замест свята – сесія

*Першамайская дэманстрацыя ў гэтым годзе не будзе праводзіцца ў кубінскай сталіцы "па эканамічных меркаваннях", паведаміў генеральны сакратар прафцэнтра працоўных Кубы П.Рос.*

"Дэманстрацыя каштуе вельмі дорага, і краіна не можа сабе дазволіць такую раскошу", — падкрэсліў ён. Першамай на Кубе вырашана адзначыць адкрыццём нечарговай сесіі нацыянальнай асамблеі народнай улады (парламента).

### Можна назіраць, пробы нельга браць

*Па паведамленнях інфармацыйных агенцтваў, Паўночная Карэя дазволіць назіральнікам з МАГАТЭ прысутнічаць пры замене паліўных шпянёў на сваім ядзерным рэактары, аднак не дазволіць ім узяць пробы адпрацаванага паліва.*

Такія пробы неабходны для таго, каб вызначыць, ці не выкарыстоўваліся ядзерныя матэрыялы ў ваеннай праграме.

### Амерыканскія аўто ў Каіры

*Першая партыя патрыманых аўтамабіляў, якія Злучаныя Штаты ахвяравалі Арганізацыі вызвалення Палесціны для стварэння паліцэйскіх сіл на аўтаномных тэрыторыях, дастаўлена ў Каір.*

Па словах дзяржсакратара ЗША Уорэна Крыстафера, ён спадзяецца, што ахвяраванне дапаможа стварыць жыццяздольныя паліцэйскія сілы для падтрымкі парадку на аўтаномных тэрыторыях. Усяго Вашынгтон плануе паставіць 200 аўтамабіляў.

### Ультыматум ... шокатэрапіі

*У Польшчы — новы вал страйкаў. Услед за шахтамі бурага вугалю спыняюцца электрастанцыі і прамысловыя прадпрыемствы.*

Страйкавы рух арганізаваны "Салідарнасцю". Яе лідэр Мар'ян Кшаклеўскі настойвае: баставаць да поўнай перамогі. Адно з галоўных патрабаванняў — павелічэнне заработнай платы і адмена ўсіх абмежаванняў на яе рост. Страйкі набываюць характар не толькі сацыяльнага, але і палітычнага ультыматуму. Паводле ацэнак мясцовай прэсы, у Польшчы бастуюць не тыя, каму жывецца горш за ўсіх, а тыя, хто мацнейшы, у прыватнасці, шахцёры.


(Працяг на 3-й стар.).


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"


*Дзяжурны па выпуску — Я.ЯСЭПКІН.*

## БІЗНЕС-КЛАС



Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### РЫНАК ПРАЦЫ

15446 чалавек — такі прырост колькасці беспрацоўных у Беларусі за тры месяцы бягучага года. Агульная колькасць беспрацоўных на ўліку органаў дзяржаўнай службы занятасці насельніцтва на пачатак красавіка дасягнула 81775 чалавек, а ўзровень беспрацоўя склаў 1,43 працэнта (напачатку года — 1,16 працэнта).

За тры месяцы ў органы службы занятасці насельніцтва за аказаннем дапамогі ў працаўладкаванні звярнуліся 49822 чалавекі. Атрымалі дапамогу 18906 чалавек, або 37,9 працэнта. Затраты на сацыяльную падтрымку незанятага насельніцтва з Фонду садзеяння занятасці склалі 4 млрд.635 млн.рублёў. Трэба адзначыць, што сітуацыя на рынках працы розных рэгіёнаў значна адрозніваецца. Найбольшы прырост колькасці беспрацоўных за першы квартал 1994 года зарэгістраваны па Гомельскай і Брэсцкай абласцях, а найменшы — у Мінску. Па ўзроўню беспрацоўя працаздольнага насельніцтва на першым месцы Мінская вобласць — 1,84 працэнта (горад Мінск — 0,98 працэнта).

Найменшая патрэба ў працоўнай сіле зафіксавана па Брэсцкай вобласці: на 1 красавіка ўсе прадпрыемствы і арганізацыі далі заяўкі толькі на 645 працаўнікоў (543 з іх — рабочыя спецыяльнасці). Найбольшы попыт на працоўную сілу у Мінску — 4978 заявак. У астатніх рэгіёнах попыт вагаецца ад 1,5 да 2,5 тысячы.

### ЧАС – ГРОШЫ

Агульнавядома, што зараз самы дарагі тавар — інфармацыя. А найдаражэйшы — інфармацыя, што трапляе да вас своечасова: хто не паспеў — той спазніўся. У першую чаргу гэта тычыцца бізнесменаў, бо без наяўнасці мабільных сродкаў сувязі нельга весці справы з поспехам. Паводле статыстычных даных Вашынгтонскага інстытута сацыялогіі, 90 працэнтаў амерыканскіх бізнесменаў зарабляюць грошы па тэлефоне.

На Захадзе зараз выкарыстоўваюцца ў асноўным тры тыпы мабільных сродкаў сувязі. Найбольш просты і танны — пейджэр. Паколькі большая частка тэлефонных размоў мае аднабаковы характар (аддаць загад або распараджэнне, папрасіць аб нечым ці прыгадаць сустрэчу), а ваш калега, падначалены знаходзіцца далёка ад тэлефона, лепш за ўсё карыстацца пейджэрам. Прынцып карыстання вельмі просты: трэба тэлефанаваць на перадатачную станцыю і перадаць апаратару паведамленне. У любы час сутак абанент пачуе сігнал з маленькай пластмасавай скрыначкі, што трымаецца на яго поясе і, націснуўшы кнопку, прачытае тэкставае паведамленне, ці нумар тэлефона, умоўны гукавы сігнал.

Больш складаны від сувязі — мабільны тэлефон. Ён мае шэраг функцый і выкарыстоўваецца ў любых умовах. Яго можна падключыць да акумулятара аўтамабіля і размаўляць, не адрываючы рукі ад руля, можна паставіць у любым месцы, дзе ёсць разетка на 220V, апарат можна насіць у руках, тады ён можа працаваць на працягу 50 хвілін размовы. Зараднае прыстасаванне (220V) за ноч аднавіць энергію ў акумулятары. Каштуе такі тэлефон 1050 даляраў.

Аднак найбольш дарагім, складаным і зручным сродкам сувязі з'яўляецца партатыўная радыёстанцыя. Яна дае магчымасць весці размову з адным і больш абанентамі, звязвацца з тэлефоннай сеткай, размаўляць, знаходзячыся ў значнай адлегласці ад горада, у аўтамабілі, на дачы, бо радыус дзеяння радыёстанцыі — 70 кіламетраў. Самая маленькая станцыя не больш за пачак цыгарэт. Кошт розных мадыфікацый радыёстанцый вагаецца ад 799 да 1500 даляраў.

І яшчэ. Агульнавядома, што вашы дзелавыя перагаворы па тэлефоне можа нехта падслухаць, што па зразумелых прычынах непажадана. Тут вам дапаможа скрэблер — прыставанне для кадзіравання і дэкадзіравання сігналаў. Яго можна ўманціраваць у радыёстанцыю, мабільны тэлефон і проста ў тэлефонны апарат. Зламыснік, што падключыўся да лініі, пачуе толькі трэск, а ваш абанент, які мае другі скрэблер, усё зразумее. Коды перадачы пасля кожнай размовы аўтаматычна мяняюцца, таму "вылічыць" сігнал практычна немагчыма.

### ДАРЭЧЫ...

Паводле ацэнак урадавых экспертаў, напрыканцы бягучага года курс даляра ў Расіі падымецца да 4500 рублёў. Узровень інфляцыі, як чакаюць, у сярэднім будзе 11-13 працэнтаў у месяц, аднак, да снежня, паводле прагнозаў, ён знізіцца да 7-8 працэнтаў. Мяркуецца ўдвая ў параўнанні з мінулым годам паменшыць крэдытную эмісію, рэзка скараціць дзяржаўныя датацыі. Бюджэтны дэфіцыт дасягне 62 трыльёнаў рублёў.

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Ці патрэбен беларусам "кідок на поўдзень"?

□ Барыс САФРОНЕНКА

*Калі паспрабаваць адным словам выказаць уражанне аб асобе і палітычным крэда Уладзіміра Жырыноўскага, на розум прыходзіць толькі адно слова — "раптоўнасць". Неспадзяванае само яго з'яўленне на палітычнай арэне. Нечаканы стыль і змест галоўнай на сённяшні дзень кнігі Жырыноўскага "Апошні кідок на поўдзень".*

Напэўна, нам, беларусам, будзе таксама варта азнаёміцца з поглядамі аўтара, які не апошняе месца займае сёння ў палітычным жыцці нашай суседкі Расіі, ды і геапалітычныя погляды яго так ці інакш закранаюць інтарэсы нашай рэспублікі, а пры ўкараненні іх у жыццё могуць крута змяніць яе лёс, прычым, не ў лепшы бок.

Уявім сабе, што Уладзімір Вольфавіч стане ўсё ж прэзідэнтам. Што ж ён прапануе ў гэтай якасці Расіі і свету?

А прапануе ён, мяркуючы па яго кнізе "Апошні кідок на поўдзень", стары як свет спосаб рашыць усе ўнутраныя і знешнія праблемы сваёй краіны шляхам бліцкрыгу, хуткага заваявальнага паходу расійскай арміі на поўдзень.

Уладзімір Вольфавіч малюе прыгожую, эмацыянальна прыўзнятую карціну будучага працвітання рускай нацыі і сумежных народаў пасля таго, як Расія заваюе Іран, Турцыю і Афганістан. Выйшаўшы на бераг Індыйскага акіяна, "мы знойдзем і спакойных суседзяў", гэта значыць дружалюбных Індыю і Ірак. Спыняцца ўсе міжнацыянальныя канфлікты, таму што ўсюды будуць стаяць рускія гарнізоны. Заваяваныя тэрыторыі падзелім на губерні, паветы, правінцыі, дарэчы, як і ўсю Расію і ўсе краіны СНД. Настане "змяшанне народаў у выніку агульнай эканомікі, панаванне рускай мовы, рускага рубля, галоўнае месца рускай арміі, як найбольш баяздольнай, так ужо гістарычна склалася". Будучыня заваяванага краю пасля гэтага пераможнага паходу ўяўляецца лідэру ЛДПР у такіх светлых фарбах, што падобна на утопію:"Трэба назаўсёды супакоіць гэты рэгіён, каб там, на берагах Індыйскага акіяна і Міжземнага мора, былі базы адпачынку, лагеры для моладзі, санаторыі, прафілакторыі. Увесь поўдзень мог бы стаць суцэльнай зонай санаторыяў, дамоў адпачынку для прамысловай Поўначы і для людзей усіх нацыянальнасцей".

Дзіўна, але думка, якая напрошваецца сама сабой: а як быць з супраціўленнем туркаў, афганцаў і жыхароў Ірана? — Уладзімірам Вольфавічам не тое, што поўнасцю ігнаруецца, ён проста не лічыць яе важнай. Мала таго, дапускае, што такога супраціўлення, барацьбы за сваю незалежнасць можа і не быць. Яго аргументы на карысць такога парадаксальнага меркавання могуць выклікаць толькі ўсмешку. Жырыноўскі лічыць, што Афганістан супраціўляўся савецкім войскам толькі таму, што "з 1979 па 1989 год у Афганістане стаяла Чырвоная Армія пад камуністычнымі сцягамі. А калі б гэта была царская знешняя палітыка, усе пытанні былі б даўно ўжо вырашаны. Мае вялікае значэнне псіхалагічны фактар — хто менавіта ажыццяўляе тую ці іншую палітыку". Жырыноўскі ўпэўнены, што супраць царскіх войск афганцы не ваявалі б. Але ж больш дружалюбны ў адносінах да Расіі Каўказ царскія войскі ў XIX стагоддзі не маглі заваяваць на працягу 25 гадоў. Факт, які гуманітарый Жырыноўскі павінен бы ведаць. Калі прытрымлівацца яго логікі, незразумела, чаму наша насельніцтва ў Вялікую Айчынную не сустракала фашысцкія войскі з хлебам-соллю, бо яны ж не неслі з сабой камуністычных ідэй.

Пры азнаямленні з геапалітычнай праграмай Жырыноўскага абавязкова ўзнікае пытанне: а што ж у выпадку "апошняга кідка" Расіі на поўдзень" будуць рабіць іншыя вялікія дзяржавы свету? Спакойна назіраць за тым, што адбываецца? Дзіўна, але Уладзімір Вольфавіч недвухсэнсоўна, зусім сур'ёзна лічыць, што так, будуць спакойна назіраць. "Адзінай, каму б гэта магло не спадабацца, — Амерыцы, але яна не стане ўмешвацца, вельмі цяжкі іншы варыянт развіцця для яе, калі яна ўмяшаецца". На думку Жырыноўскага, каб ніхто не перашкаджаў Расіі ўстанаўліваць новыя межы на поўдні, патрэбна толькі "дамовіцца, што мы падзяляем усю планету (!), сферы эканамічнага ўплыву ў напрамку поўнач—поўдзень". Гэта значыць трэба ажыццявіць чарговы, ужо трэці ў гэтым стагоддзі перадзел свету. Тое, што падобныя падзелы непазбежна вядуць да сусветных войнаў, лідэра ЛДПР зусім не хвалюе, ён проста стараецца не заўважаць такой заканамернасці. Затое дакладна, у стылі безагаворачных рэляцый палкаводца сваім генералам, указвае, якой з буйных дзяржаў чым менавіта належыць уладарыць: "Японцы і кітайцы — уніз, на Паўднёва-Усходнюю Азію, Філіпіны, Малайзію, Інданезію, Аўстралію. Расія — на поўдзень — Афганістан, Іран, Турцыя. Заходняя Еўропа — на поўдзень — афрыканскі кантынент. І, нарэшце, Канада і ЗША — на поўдзень — гэта ўся Лацінская Амерыка. І ўсё гэта на роўных. Тут няма ні ў кога пераваг, напрамак адзін і той жа — на поўдзень".

Застаецца толькі здзіўляцца, як гэта ЗША не паслухаліся раней Жырыноўскага і ваявалі з яго сябрам Садамам Хусейнам, у той час як па геапалітычнай формуле лідэра ЛДПР ім трэба наводзіць парадак толькі і выключна ў Лацінскай Амерыцы. Дарэчы, Уладзімір Вольфавіч лічыць, што ЗША не будуць перашкаджаць яго заваявальным планам не толькі з-за таго, што ён, Жырыноўскі, паказаў ім, неразумным, куды трэба накіраваць сваю агрэсію, але і таму, што іх хутка чакае, што б вы думалі? Перабудова, што горш за любую чуму і вайну. Так і піша: "Наперадзе ў вас — ваша перабудова, ваша хвароба, ваша дэградацыя. І мы, рускія, не будзем зларадзнічаць, калі нейкія штаты пачнуць адасабляцца, калі будуць спыняцца вашы заводы, калі вам не будзе хапаць прадуктаў харчавання, лекаў, калі будуць выязджаць з Амерыкі ў Еўропу, у Расію, у Японію, у ПАР, у Аўстралію. Мы не будзем зларадзнічаць, калі Каліфорнія адыдзе да Мексікі, калі ў Маямі будзе створана негрыцянская рэспубліка, калі рускія вернуць сабе Аляску".

Не ўпэўнены, што самая раскаваная фантазія самага вынаходлівага амерыканскага пісьменніка-фантаста магла б прыдумаць і хоць неяк абгрунтаваць падобную карціну будучага для сваёй краіны. Жырыноўскі абгрунтоўвае яе з лёгкасцю. Аказваецца, перабудова ў ЗША і іншыя беды адбудуцца з-за "экспансіі іспанамоўных з Мексікі, з іншых лацінскіх краін і размнажэння чорнага насельніцтва, якое можа дасягнуць 40—50 мільёнаў. Усё разам гэта ўжо складзе каля ста мільёнаў. Палова Амерыкі стане каляровай. І ў перспектыве, улічваючы, што каляровае насельніцтва размнажаецца хутчэй, у Амерыцы будзе далейшы рост злачыннасці, гібель белага насельніцтва і ў той жа час размнажэнне каляровага. І хто ведае, ці не папросіць Амерыка дапамогі ў Расіі ў сярэдзіне XXI стагоддзя?" Паводле Жырыноўскага, Расія павінна дапамагчы і Францыі, "інакш сталіца Францыі да новага стагоддзя — да 2000 года — ператворыцца ў арабскі горад. Бо алжырцы паціху захопліваюць Парыж і ідуць далей. Еўропа мае патрэбу ў нашай дапамозе".

Такім чынам, паводле тэорыі лідэра ЛДПР, уся справа ў больш хуткім размнажэнні непаўнацэнных у расавых адносінах народаў. Адсюль і кроку не застаецца да абгрунтавання неабходнасці іх хутчэйшага знішчэння, хаця б і ў канцэнтрацыйных лагерах.

Асобна пра Беларусь у сваёй кнізе ён не гаворыць, загадзя разглядаючы яе як расійскую правінцыю. Прычым, такую правінцыю, якой Расіі зусім не шкада, якую яна настолькі не шануе, што частку яе тэрыторыі можа ўступіць іншым для рашэння сваіх геапалітычных задач. Вось пра гэта ў лідэра ЛДПР сказана недвухсэнсоўна:"Германія атрымае магчымасць аднавіць Усходнюю Прусію за кошт тэрыторыі Польшчы—часткі яе". Палякі ў такім выпадку, як справядліва думае Жырыноўскі, застануцца незадаволенымі, тым больш, што "яны (палякі) хацелі б атрымаць Львоў, але Львоў патрэбны Заходне-Украінскай рэспубліцы (які клопат!). І немцы паціснуць палякаў". І вось тут Уладзімір Вольфавіч мяркуе "ў раёне Брэста, напэўна, нешта і спадабаецца Польшчы". Такім чынам, паводле Жырыноўскага, Польшча можа быць узнагароджана за кошт Брэстчыны. Астатак жа Паўночна-Заходняга краю, або як там яшчэ Уладзімір Вольфавіч мае намер назваць былую Беларусь, павінен поўнасцю русіфікавацца. Пры гэтым больш за ўсё пацерпіць Народны фронт, таму што лідэр ЛДПР заявіў у інтэрв'ю газеце "Известия": "Варта было б законам забараніць стварэнне і функцыяніраванне ўсіх арганізацый нацыяналістычнага сепаратысцкага кшталту, якія ставяць сваёй мэтай падзяленне СССР (інтэрв'ю давалася праз два гады (!) пасля распаду Саюза), усе гэтыя народныя франты".

Наогул Жырыноўскі не тое што не лічыць магчымым існаванне нацыянальных звычаяў, культур, моў. Чаму ж ён, напрыклад, думае нават захаваць дваяжэнства ў Азіі, качавы спосаб жыцця для народаў, якія жывуць у юртах. Можна, значыць, спадзявацца, што, прыйшоўшы да ўлады і атрымаўшы Беларусь у якасці губерні Расіі, ён беларускія звычаі і фальклор пакіне. Але гэта зусім не значыць, што будзе шанаваць беларускую культуру. Вось ужо гэта нізашто! У гэтым плане спадар Жырыноўскі цвёрды! "На гэтай новай прасторы,— запэўнівае ён,— да берага Індыйскага акіяна ўсе будуць размаўляць парускі. Дзесяткі розных народаў, розныя веравызнанні, цюркамоўныя і фарсімоўныя, славяне і грэкі, курды і арабы". Наогул, хочаце развівайце сваю нацыянальную культуру за свой кошт, але ніяк не дзяржаўны. І не дай вам Бог, калі нацыянальная мова, нацыянальная культура набудзе прыярытэт над расійскай мовай і культурай. Адразу ж абвінавацяць у нацыянальным сепаратызме з усімі вынікамі.

Калі працэс пераходу Беларусі ў рублёвую зону будзе пашырацца, паглыбляцца і ў рэшце рэшт закончыцца поўным эканамічным і палітычным уваходжаннем Беларусі ў склад Расіі (а гэтага не яўна, дык тайна жадаюць многія народныя дэпутаты, у якіх у крыві, ледзь не ў генах устаноўка: будаваць жыццё толькі па ўказанню Масквы), беларусам застанецца толькі спадзявацца, што пераможа разумны сэнс і да ўлады не прыйдзе ЛДПР.

## Пурпуровае лісце

□ Якаў ЯСЭПКІН

Мінае красавік, заўтра — май — вянец веснавога цвіцення прыроды. Росквіт залатой і вечна юнай пары, калі смарагдавасонечная лістота дорыць усім радасць аднаўлення. Сёлетні май на Беларусі не зусім звычайны. Здаецца, прыродную квецень адцяняюць папяроваэлектронным пурпурам промні палітычнага сонцастаяння. Гэтае палітычнае свяціла рушыцца у зеніт, які ў часовым вымярэнні супадае з сонцастаяннем летнім. Чэрвень тоіць у сабе адказ на народнае спадзяванне аб адраджэнні.

У жыццё грамадства ўладарна ўваходзіць новая палітычная ява. Спачатку быў проста слоўны накат, бясконцыя меркаванні наконт прэзідэнцтва. Пасля прыняцця адпаведных заканадаўчых актаў чорна-ліловыя літары амаль маланкава натуралізаваліся, шпарка ўвайшлі ў рэчаіснасць. Не паспелі азірнуцца — "прэзідэнцкая кавалькада" імчыць, апярэджваючы разважлівы час. Па-за яе кампактным каркасам — шэраг уяўных прэтэндэнтаў на "трон". Хто зойме прывілеяваныя месцы ў сталёвым купэ транзітнага экспрэса да прэзідэнцтва ўжо ў якасці рэальнага лідэра? Даведаемся даволі хутка (рэгістрацыя кандыдатаў, як вядома, мусіць адбыцца з 27 мая па 2 чэрвеня). Аднак сапраўдны адказ на далёка не рытарычнае пытанне даём мы з вамі менавіта цяпер, ставячы свае подпісы на сціплых паперах станоўчага ўзору.

З падпіснымі лістамі ў народ пайшлі прадстаўнікі ініцыятыўных груп. Іх дзевятнаццаць. Збор подпісаў распачаўся на гэтым тыдні, а менавіта — у панядзелак. Але ж усім зразумела, што прэтэнзія часткі (і даволі вялікай) прэтэндэнтаў на лаўры беларускага Цэзара, як ні сумна, не мае аніякай падставы. Хаця і сімвалічны ўдзел у кампаніі дае пэўныя дывідэнды (не залатыя, дык сярэбраныя ці нейкія яшчэ) усім, хто марыць аб узыходжанні на палітычны Алімп.

Важкімі выглядаюць дамаганні канкрэтных людзей. Іх імёны на слыху, і ўсе яны належаць да айчыннай палітычнай эліты, да сучаснага парламенцка-ўрадавага істэблішмента. Нават такіх палітыкаў "новай хвалі" як Пазьняк ці Лукашэнка можна з упэўненасцю адносіць да элітарнай групоўкі ў агульных шэрагах кандыдацкай раці, бо іх шырокая вядомасць, "свячэнне" у яркім бляску тэлевізійных сафітаў, пастаянная фізічная ці ўяўная прысутнасць у калідорах улады не патрабуюць дадатковага тлумачэння. Ці належным чынам выкарыстаюць яны "залатыя вэкселі" ўсенароднай вядомасці — вось у чым яшчэ адно пытанне.

І тут трэба прыгадаць нядаўні расійскі феномен, які ўразіў не толькі Расію, а і свет. Перамога, хай і Пірава, на апошніх парламенцкіх выбарах партыі Жырыноўскага стала "халодным душам" для спрачаўшыхся паміж сабою палітыкаў-волатаў. Зусім не гіганцкая фігура Уладзіміра Вольфавіча, павольна ўзнікшая спачатку на тэлеэкранах, пасля поспеху на выбарах не толькі пераскочыла электронны бар'ер, але і вырасла ў памерах. Гэта не цуды звышрэальнасці, а заканамерны вынік пісьменна праведзенай агітацыі. Выкананне абяцанкаў — другарадна, галоўнае ў тым, каб дасягнуць мэты. Прыклад тым больш актуальны, калі ўлічыць апублікаваную на днях пастанову беларускага ўрада і Цэнтрвыбаркама аб парадку карыстання кандыдатамі ў прэзідэнты сродкамі масавай інфармацыі. Для ўсіх ствараюцца роўныя ўмовы, толькі ад розуму і таленту нашых прамоўцаў будзе залежаць іх поспех ці правал. Вядома, у агітацыйным буме пераважае элемент гульні на публіку, але ёсць правілы, абумоўленыя самой сутнасцю выбараў. Што адбудзецца пасля іх, ці стане смак рэформ больш салодкім для народа, — цяпер не скажа ніхто.

Цяпер разгортваецца нежартоўная барацьба за электарат, напал і градус яе ўзрастаюць разам з тэмпературай майскага паветра. Да сярэдзіны месяца працягнецца збор подпісаў. Потым лісты з прозвішчамі складуцца ў пухлыя фаліянты, а затым адыдуць у гісторыю. З антычных часоў пурпур — колер улады, таму для кагосьці яны стануць пурпуровым лісцем, сімвалізуючым перамогу. Пазней хто-небудзь зможа і ўплесці іх у лаўровы вянок трыумфатара. Для астатніх жа падпісныя паперы ператворацца ў апалае лісце.

## ПАСТАНОВА

### Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта "Аб парадку карыстання кандыдатамі ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь сродкамі масавай інфармацыі"

У адпаведнасці з артыкулам 8 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 30 сакавіка 1994 г. "Аб правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" і зыходзячы з таго, што кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з часу іх рэгістрацыі Цэнтральнай камісіяй па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь удзельнічаюць у выбарчай кампаніі на роўных пачатках, маюць аднолькавае права на карыстанне сродкамі масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **п а с т а н а ў л я ю ц ь:**

1. Сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх выступаюць дзяржаўныя органы, арганізацыі, установы, а таксама сродкі масавай інфармацыі, што часткова фінансуюцца за кошт дзяржаўных сродкаў, абавязаны забяспечваць роўныя магчымасці для перадвыбарных выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

2. Кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з часу іх рэгістрацыі маюць права апублікаваць у рэспубліканскіх, абласных і мінскай гарадской газетах сваю перадвыбарную праграму аб'ёмам 1/2 паласы фармату А-2, у гарадскіх, раённых і аб'яднаных газетах — 1/2 паласы фармату А-3. Тэксты ўказаных праграм павінны быць прадстаўлены ў рэдакцыі газет не пазней чым за 15 дзён да выбараў. Пры апублікаванні гэтых праграм захоўваецца чарговасць іх паступлення.

3.Кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з часу іх рэгістрацыі маюць права бясплатна выступаць па дзяржаўнаму тэлебачанні і радыёвяшчанні.

Ліміт часу ў разліку на аднаго кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь складае 2,5 гадзіны на рэспубліканскім тэлебачанні, 2,5 гадзіны на рэспубліканскім радыё і прадастаўляецца на аднолькавых падставах у вызначаны час. Графік выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь па рэспубліканскаму тэлебачанні і радыёвяшчанні зацвярджаецца Дзяржаўным камітэтам па тэлебачанні і радыёвяшчанні па ўзгадненню з Цэнтральнай камісіяй па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Працягласць часу вяшчання, які даецца кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, не можа быць меншай чым 30 мінут, а колькасць выступленняў — не менш чым два. Пры гэтым, у выпадку выступлення па тэлебачанні павінен фіксавацца час, а перад пачаткам і пасля заканчэння выступлення па радыё дыктар павінен паведаміць дакладны час.

Ліміт прадастаўлення часу вяшчання кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на мясцовым тэлебачанні і радыёвяшчанні, а таксама працягласць іх выступленняў устанаўліваюцца Дзяржаўным камітэтам па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

4. Падставай для прадастаўлення эфірнага часу кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з'яўляецца пасведчанне кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і яго пісьмовая просьба кіраўніцтву Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні, якая падаецца кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь не пазней чым за 5 дзён да выступлення. Пры гэтым захоўваецца чарговасць прадастаўлення эфірнага часу, зыходзячы з часу паступлення пісьмовых просьбаў кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

5. У межах прадастаўляемага часу вяшчання кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь самастойна вызначае змест інфармацыі, звязанай з перадвыбарнай агітацыяй, і склад сваіх прадстаўнікоў (удзельнікаў), за выключэннем вядучага.

6. Тэле- і радыёперадачы з перадвыбарнымі выступленнямі ідуць у прамым эфіры з адначасовым відэа- і аўдыёзапісамі, якія захоўваюцца на працягу шасці месяцаў пасля выбрання прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

7. У выпадку адмовы кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні ў выдзяленні эфірнага часу кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскім тэлебачанні і радыёвяшчанні, парушэння прынцыпу роўных умоў выдзялення эфірнага часу Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь мае права патрабаваць ад Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні даць кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь іншы гарантаваны эфірны час.

У выпадку зрыву перадачы па віне кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь гэты эфірны час залічваецца ў агульны аб'ём эфірнага часу, які выдзелены канкрэтнаму кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

8. Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні павінен забяспечыць неабходную прафесійную дапамогу (афармленне студыі, перадэфірную падрыхтоўку, тэхнічнае забеспячэнне, выхад у эфір, выдзяленне вядучых) кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

9. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям і іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, davеранымасобам кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з часу рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь прадастаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання ў друку, па тэлебачанні і радыё палітычных, дзелавых і асабістых якасцей кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі абавязаны прадухіляць тэндэнцыйнасць у падачы такіх матэрыялаў, не дапускаць апублікавання або распаўсюджвання лжывых звестак, знеслаўляючых кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а таксама публічных заклікаў да байкатавання выбараў. Парадак апублікавання, памер публікацый і месца на паласе, а таксама эфірны час перадач вызначаецца спецыяльнымі загадамі кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Матэрыялы выкарыстоўваюцца рэдакцыямі ў парадку чарговасці іх паступлення.

10. У выпадку парушэння сродкамі масавай інфармацыі Закона аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дадзенай пастановы Цэнтральная і тэрытарыяльныя камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь маюць права ставіць ва ўстаноўленым парадку пытанне аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці, аж да вызвалення ад займаемых пасад кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.

11. Кантроль за выкананнем дадзенай Пастановы ажыццяўляюць Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, тэрытарыяльныя камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры і друку, Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. МЯСНІКОВІЧ.**

**Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.АБРАМОВІЧ.**

**26 красавіка 1994 г. г.Мінск.**

### Кожны павінен зрабіць самастойны выбар

4 чэрвеня гэтага года адбудзецца XXXI з'езд Саюза моладзі Беларусі. Бюро яго Цэнтральнага камітэта запрашае ўсіх прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта рэспублікі, зарэгістраваных Цэнтральнай выбарчай камісіяй, прыняць удзел у яго рабоце. Бюро ЦК СМБ лічыць неабходным даць усім прэтэндэнтам на прэзідэнцкую пасаду магчымасць звярнуцца да Саюза моладзі з разгорнутай праграмай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, якую кожны з іх будзе рэалізоўваць у выпадку перамогі на выбарах.

"Саюз моладзі Беларусі не з'яўляецца палітычнай арганізацыяй, — гаворыцца ў заяве Бюро ЦУ СМБ, якая паступіла ў БЕЛІНФАРМ.— У нас няма строгай партыйнай дысцыпліны і іншай ідэалогіі, акрамя ідэалогіі міру і сацыяльнага партнёрства. Вось чаму бюро ЦК СМБ не лічыць магчымым навязваць 123-тысячнай арганізацыі, члены якой маюць сваю думку аб прэтэндэнтах на пасаду прэзідэнта, сваю кандыдатуру. Кожны з нас — ад першага сакратара да радавога члена Саюза — павінен зрабіць самастойны выбар у адпаведнасці са сваімі палітычнымі і чалавечымі сімпатыямі",— гаворыцца ў заяве.

АСОБЫ ВЫПАДАК

# Некалькі дзён з жыцця чалавека, які трапіў у "псіхушку"

□ Іван ГОМАНАЎ, Анатоль РАЗАНОВІЧ

*Калегі ведаюць, наколькі няўдзячная справа пісаць пра айчынную псіхіятрыю! Тут міжволі звяртаешся да вопыту амерыканскай медыцыны, якая з'яўляецца для нас своеасаблівым эталонам. І ўсё роўна ўздрыгваеш, калі, дзякуючы папулярнаму тэлесерыялу "Санта–Барбара", на паўгадзіны штовечар трапляеш у клініку доктара Ролінгса. Хоць у іх і палаты цудоўна абсталяваны, і прэпараты самыя сучасныя. Пацыент, калі таго ўрач захоча, ператворыцца ў істоту без прыкмет інтэлекту.*

Наша гісторыя здарылася не ў далёкай Санта-Барбары, а ў блізкім сэрцу Брэсце.

Адразу зробім агаворку. Мы не будзем даваць ніякіх ацэнак прафесіянальным якасцям медыцынскіх работнікаў, якія маюць дачыненне да таго, што адбылося,— гэта справа спецыялістаў, кампетэнтных людзей.

Задача журналістаў больш сціплая — прасачыць шлях, які прывёў чалавека са звычайнай псіхікай, прабачце за каламбур, у "псіхушку".

Зразумела, па канонах журналісцкай этыкі, мы не сталі называць ні сапраўднага прозвішча, ні месца работы героя публікацыі. Хоць спачатку ён настойваў, каб карэспандэнты абсалютна нічога не ўтойвалі, у тым ліку і яго анкету. "Мне няма чаго таіцца, — рашуча сказаў малады чалавек.— За свае ўчынкі я адказваю". І ўсё ж, улічваючы неардынарнасць сітуацыі, у якой апынуўся наш новы знаёмы, аўтары гэтых нататак цвёрда вырашылі пакінуць інкогніта героя.

Такім чынам, за справу. Уладзіміру М. 35 гадоў. Прафесіянальны вадзіцель, першакласны механік. Доўгі час працаваў шафёрам. З заплюшчанымі вачыма адрамантуе рухавік не толькі айчынных легкавікоў, але і практычна ўсялякай інамаркі. Быў персанальным шафёрам вядомых у Брэсце асоб. Адным словам, лічыўся ў жыцці шчаслівуцам.

Хвароба падкралася нечакана. У 1991 годзе адчуў Валодзя, што пачаў "скакаць" ціск. У той час ён вазіў кіраўніка адной з папулярных на Брэстчыне турыстычных фірм. Па ўласнаму жаданню перайшоў на пасаду слесара-механіка на гэтым жа прадпрыемстве.

У пачатку дзевяностых на грэбені хвалі раптам аказаліся нетрадыцыйныя метады лячэння ўсялякіх хвароб. Псіхатэрапеўты, экстрасенсы літаральна запаланілі газетныя і часопісныя старонкі, іх твары замільгацелі на тэлеэкранах. Захапіўся нетрадыцыйным лячэннем і наш герой. Актыўна займаўся практыкаваннямі "Дзеткі" Іванова, наведваў сеансы экстрасенсаў. Наставала, праўда, некаторае паляпшэнне. Але затым хвароба абвастралася зноў.

Тут, канешне, можна папракнуць Уладзіміра за тое, што ён вельмі даверяў усялякім ілжэлекарам. Гіпертанія — штука капрызная, патрабуе працяглага лячэння з прымяненнем медпрэпаратаў. Так, прынамсі, лічаць работнікі Брэсцкага абласнога ўпраўлення аховы здароўя. А ва Уладзіміра ў паліклініцы нават не было ўрача, які б яго пастаянна лячыў. Пры абвастрэнні ён прыходзіў на прыём, і кожны раз яго сустракаў новы ўрач. Дзесьці ў глыбіні душы Валодзі жыў гэты наш шкодны прынцып "А можа абыдзецца!" Не абышлося...

Незадоўга да Новага года, а дакладней 21 снежня, адбыўся гіпертанічны крыз, і "хуткая дапамога" даставіла яго ў кардыялагічнае аддзяленне гарадской бальніцы. Ціск урачам удалося крыху збіць, але хвораму неабходна была шпіталізацыя. Урач Людміла Хільчук, якая лячыла яго, вяла сябе ветліва з хворым.

Справы ў Валодзі стабілізаваліся, самаадчуванне палепшылася. Але жыццё ўносіць свае карэктывы. У ноч з 23 на 24 снежня суседу па палаце становіцца дрэнна. Не спаў і Валодзя, які, па сутнасці, так і не дакрануўся да падушкі, дапамагаючы дзяжурнай медсястры Ніне Мацюшык. Затым у гутарцы з намі Ніна Мацюшык прызнаецца, што без падтрымкі Валодзі ў тую ноч было б нялёгка.

Але вось для нашага хворага бяссонная ноч аказалася сапраўды чорнай. Раніцай ён выглядаў стомленым, настрой сапсаваўся. На гэта звярнула ўвагу ўрач Л.Хільчук, якая лячыла Уладзіміра. Нам цяжка меркаваць, што прымусіла Людмілу Уладзіміраўну ўсумніцца ў "нармальнасці" хворага на гіпертанію, але яна звярнулася па кансультацыю да псіхіятра абласнога псіханеўралагічнага дыспансера Клары Сліньковай. Клара Пятроўна, пагутарыўшы нядоўга з Валодзем, робіць лаканічны, але катэгарычны вывад: "Вам, малады чалавек, трэба лячыцца".

Валодзя не стаў абвяргаць довады вопытнага эксперта і, нічога не падазраючы, вярнуўся ў палату. Толькі адпачыць тут яму ўжо не ўдалося. Трохі пачакаўшы, Л.Хільчук папярэджвае, што яго накіруюць у абласную бальніцу для далейшых кансультацый. Гэта было каля 17 гадзін.

Нарэшце, прыязджае "хуткая дапамога", і, нічога не падазраючы, Валодзя садзіцца ў машыну. Але ў дарозе ён раптам пачынае сумнявацца: ці сапраўды яго вязуць у абласную бальніцу? Пацікавіўся ў аднаго з санітараў. Той груба адказаў: "Куды заслужыў, туды і вязуць".

— Прывезлі мяне ў псіхдыспансер на Плоску і адразу змясцілі на другі паверх, у аддзяленне "буйных",— дрыжачым голасам успамінае Валодзя.— Тут я прабыў прыкладна паўгадзіны, пакуль мяне не прынялі да дзяжурнага ўрача.

Паводле слоў Валодзі, дзяжурны ўрач (на жаль, нам не ўдалося з ім пагутарыць) быў дужа здзіўлены, прачытаўшы суправаджальныя паперы хворага, якія паступілі з гарбальніцы. Аднак на просьбу Валодзі выпусціць яго з дыспансера ўрач катэгарычна адмовіў: "Гэта не ў маёй кампетэнцыі. Выпусціць цябе можа загадчык аддзялення па рашэнню камісіі". Была пятніца, вечар. Аб камісійным аглядзе ў выхадныя дні не магло быць і гаворкі. Але ўсё роўна ўдзячны Валодзя дзяжурнаму ўрачу. Ён перавёў пацыента ў другое аддзяленне, дзе знаходзіліся больш-менш спакойныя хворыя. Ды і проста па-чалавечы падтрымаў Валодзю, даў яму магчымасць патэлефанаваць сябрам.

Далей Валодзю выклікала на прыём загадчыца аддзялення Таццяна Кузняцова. Была субота, і наш змучаны герой разлічваў, што непаразуменне, нарэшце, высветліцца і яго выпусцяць на волю — у прамым сэнсе слова. Але Кузняцова, дадзенай ёй уладай, пакінула маладога мужчыну на выхадныя дні ў дыспансеры "паназіраць". У той жа дзень да яе з цяжкасцю трапіла жонка Валодзі — Тамара, дарэчы, таксама медык. І што ж? Як піша ў рэдакцыю Тамара, загадчыца аддзялення нагрубіла ёй, а затым выклікала санітара, які выштурхнуў разгубленую прасіцельку з кабінета. Зрэшты, не цырымонілася Кузняцова і з журналістамі, калі мы прыехалі ў дыспансер. Загадчыца аддзялення фактычна паказала карэспандэнтам на дзверы, спаслаўшыся на іншыя справы. Дарэчы, не вельмі ветлівы з наведвальнікамі і яе муж Аляксей Кузняцоў — галоўны ўрач абласнога псіханеўралагічнага дыспансера. Калі жонка Валодзі са сваім бацькам прыйшлі ў абласное ўпраўленне аховы здароўя, Кузняцоў у кабінеце намесніка начальніка ўпраўлення пачуццём такту не вызначаўся, папросту ім нахаміў.

Камісійны агляд у дыспансеры, які павінен быў расставіць кропкі над "і" ў справе Валодзі, планаваўся першапачаткова ў панядзелак, 27 снежня. Але нечакана яго перанеслі на аўторак. Пераканаўчай прычыны пераносу мы так і не даведаліся. Нехта сказаў, што ў членаў камісіі не было транспарту, каб даехаць у дыспансер на Плоску...

І толькі ў аўторак, 28 снежня, камісійны агляд адбыўся. Намеснік галоўнага ўрача дыспансера Л.Дунец з калегамі прыйшлі да думкі, што падстаў трымаць Валодзю ў іх установе няма. І быў ён выпісаны з дыягназам: вегетасасудзістая дыстанія.

Сёння, калі страсці крыху сціхлі, хочацца атрымаць больш-менш поўныя адказы на ключавыя пытанні. Чаму ўтойвалі ад Валодзі праўду — куды яго пераводзяць з гарадской бальніцы? Чаму не паведамілі аб гэтым сваякам? Калі Валодзю з высокім ціскам "хуткая дапамога" даставіла ў гарадскую бальніцу, яго жонка знаходзілася ў Кобрыне з дзецьмі ў бацькоў. Даведаўшыся аб хваробе мужа, яна на ўсіх парах ляціць у кардыялогію гарбальніцы. Але мужа там не знаходзіць. Ёй гавораць, што яго перавезлі ў абласную бальніцу. Занепакоеная жанчына праз увесь горад едзе туды, знаёміцца са спісам паступіўшых пацыентаў — там прозвішча мужа няма. І толькі ад суседзяў, якім дазваніўся з псіханеўралагічнага дыспансера Валодзя, Тамара даведваецца, куды трапіў муж.

Валодзя прызнаўся нам: з прыпісаных медпрэпаратаў прымаў толькі ўколы ад ціску. Некалькі відаў таблетак не ўжываў. Хоць у дыспансеры за прыёмам лякарстваў сачылі вельмі строга, ён умудрыўся прыдумаць цэлую сістэму "фінтоў". Выходзіць, не ўсе лякарствы яму былі неабходны.

Якія абставіны паўплывалі на перанос камісійнага агляду Валодзі? Бо кожная лішняя гадзіна ў "псіхушцы" — гэта непасрэдны ўдар па здароўю.

Па скарзе сваякоў Уладзіміра абласное ўпраўленне аховы здароўя ўтварыла прадстаўнічую камісію. З яе вывадамі і пісьмовым заключэннем мы пакуль незнаёмы. Але як запэўніў нас намеснік начальніка абласнога ўпраўлення аховы здароўя У.Рускевіч, вінаватыя будуць пакараны.

Зрэшты, хіба справа толькі ў аргвывадах? У гэтай гісторыі, здавалася б, прыватнай на першы погляд, быццам у кроплі вады, адлюстраваны праблемы медыцыны вобласці. Ужо каторы год ідуць размовы аб адкрыцці ў медыцынскіх стацыянарах аддзяленняў пагранічнага стану пацыентаў. Прыняты на гэты конт і рашэнні. Але далей слоў справа пакуль не зрушылася.

Заканчваючы гэтыя нататкі, хочацца верыць, што апісаны вышэй прыватны выпадак не стане звычайнай з'явай. У клятве Гіпакрата, якую даюць медыкі, адным з галоўных пастулатаў з'яўляецца "не нарабі шкоды". Вось аб чым не павінны забываць тыя, хто вызначае шкалу каштоўнасцей асобы.

г.Брэст.

